# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

23 верасня 2016 года №39 **(1117)**





## Актуальны расклад руху на чыгунцы

старонка 18

## "Зануды, якія раскідваюцца грашыма". Ці варта верыць стэрэатыпам аб праграмістах?

старонка 21

## Як будуць разводзіць маладзечанскую стронгу

старонка 2

# Колькі грошай можна назбіраць манетамі за два месяцы:

## гісторыя напаўнення сямейнай скарбонкі



старонка 3

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.



## "Рэгіянальная газета": падпішыся да 27 верасня, каб атрымаць з кастрычніка




**Менавіта падпіска можа забяспечыць сталае існаванне газеты, яе развіццё, упэўненасць у заўтрашнім дні і якасць.**

У кожным нумары:

- эксклюзіўныя тэксты
- рэцэпты
- праграма тэлебачання
- гараскоп
- гістарычныя артыкулы
- цэны на рынку
- прагноз надвор'я
- каляндар
- аб'явы і рэклама
- судоку

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты" (заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "Алфавітны", ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 "Рэгіянальная газета")

✓ на пошце,

✓ праз паштальёна

✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 2.25, на тры месяцы – 6.75 рубля.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 7, на тры месяцы – 21 рубель.

# Далучайцеся да конкурсу “Дзясятачка”

### Выйграй планшэт за выдатную вучобу

**Першыя ўдзельнікі конкурсу ўжо даслалі свае заяўкі і прэтэндуюць на тое, каб выйграць планшэт – галоўны прыз конкурсу “Дзясятачка”, які арганізуе “Рэгіянальная газета”.**

У конкурсе могуць удзельнічаць вучні ўсіх класаў школ і гімназій з рэгіёна, у якім выходзіць “РГ”. Для ўдзелу вам дастаткова выразаць бланк удзельніка, запоўніць і даслаць нам або прынесці ў рэдакцыю.

**Адрас рэдакцыі**: 222304, Мінская вобласць, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а, “Рэгіянальнай газеце”. Калі будзеце дасылаць поштай, зрабіце на канверце пазнаку “10-ка”.

Конкурс праводзіцца ў некалькі тураў. Вынікі тыднёвых тураў мы падводзім па пятніцах у 15 гадзін. Першы розыгрыш пройдзе 23 верасня ў рэдакцыі “РГ”. У ім будуць удзельнічаць бланкі, атрыманыя да 15 гадзін гэтага дня. Пераможцу мы абяром, выцягнуўшы адзін з бланкаў усляпую. Удзельнікі пры гэтым могуць прысутнічаць.

Бланкі, атрыманыя пасля 15 гадзін 23 верасня і да 15 гадзін 30 верасня, будуць удзельнічаць у розыгрышы другога тура.

Абсалютна ўсе атрыманыя ад 16 верасня да 28 кастрычніка бланкі будуць удзельнічаць у розыгрышы галоўнага прыза – планшэта. Яго мы разыграем у лістападзе.

Яшчэ адзін падарунак мы прапануем для цэлага класа-ўдзельніка конкурсу. На нашым сайце rh.by мы размесцім галасаванне за класы, якія прадстаўляюць удзельнікі конкурсу. Той клас, які набярэ найбольш галасоў, выйграе паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Рэдакцыя таксама ўзнагародзіць настаўніка, чые вучні стануць найбольш актыўнымі ўдзельнікамі конкурсу.

Да ўдзелу дапускаюцца толькі выразаныя з газеты бланкі. Удзельнікам можа стаць вучань, які атрымаў у гэтым навучальным годзе адзнаку “9” ці “10” па любым навучальным прадмеце. Колькасць дасланых заявак неабмежаваная, але толькі раз з адной адзнакай, і толькі адну адзнаку можна ставіць у адзін бланк.

Бланк можа афарміць вучань, яго бацькі або настаўнік. У графе “подпіс настаўніка” папрасіце паставіць подпіс таго настаўніка, які паставіў вам адзнаку.

У тыднёвых розыгрышах удзельнікі атрымліваюць шанец выйграць рукзак, сумку для ноўтбука, кубак, бірульку ці палатняную торбачку.

Конкурс “Дзясятачка” арганізавала “Рэгіянальная газета” для матывавання школьнікаў выдатна вучыцца.

Жадаем вам поспеху і выдатнай вучобы!

### Бланк удзельніка конкурсу “Дзясятачка” (№39)




•Імя, прозвішча ____________________

•Дата нараджэння ____________________

•Клас ____________________
•Школа ____________________

•Населены пункт ____________________

•Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________________

•Прадмет, за які атрыманы бал ____________________

•Які бал атрымаў (“9” ці “10”) ____________________
•Дата, калі быў атрыманы бал ____________________
•Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка ____________________
•Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________________

•Подпіс настаўніка ____________________

# Як будуць разводзіць маладзечанскую стронгу

МАЛАДЗЕЧНА

**На думку навукоўцаў, у стронзе шмат вітамінаў. Яна зніжае халестэрын у крыві, добра ўплывае на работу мозга. І што асабліва важна ў сённяшнім неспакойным жыцці, умацоўвае нервы, пазбаўляе ад дэпрэсіі і стрэсу.**


Фота abokan.fishretail.ru

На думку навукоўцаў, у стронзе шмат карысных рэчываў.

Некалі шмат стронгі вадзілася ў вадаёмах рэгіёна: на Вілейшчыне, Астравеччыне, Ашмяншчыне. Стронга нават намаляваная на гербе Астраўца. На сённяшні дзень гэтай рыбы стала менш. З 1980-х гадоў стронга ручаёвая занесеная ў Чырвоную кнігу Беларусі.

Пакуль гэту карысную рыбу ў наш рэгіён прывозяць. Але ўжо ў наступным годзе мы зможам пакаштаваць стронгу з Маладзечаншчыны. Недалёка ад Радашкавічаў, у вёсцы Сычавічы на рацэ Рыбчанцы, будуюць гаспадарку па развядзенні стронгі.

З 2011 года ў Маладзечанскім раёне запусцілі сумесны інвестыцыйны беларуска-іранскі праект. У яго рамках будуюць стронгавую гаспадарку.

Як Маладзечанскі раён выйшаў на гэтае супрацоўніцтва?

Па словах начальніка аддзела эканомікі Маладзечанскага райвыканкама **Алы Маскалюк**, заснавальнік з Ірана звярнуўся ў Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі. Ён хацеў абраць пляцоўку для будаўніцтва свайго прадпрыемства.

Яму прапанавалі раку Рыбчанку на Маладзечаншчыне. Райвыканкам заключыў дагавор з Міністэрствам. Пачалі праводзіць выпрабаванні. Правяралі геадэзічныя, геалагічныя ўмовы.

Стронга – рыба патрабавальная. Вада, у якой яна водзіцца, павінна быць чыстай, халоднай, з дастатковай колькасцю кіслароду.

Рыба любіць рэкі з камяністым дном і кустоўем па берагах. Рака Рыбчанка якраз адпавядае ўсім гэтым патрабаванням.

Асноўныя работы распачалі тут з мая 2016 года, а закончыць плануюць у снежні. На будаўніцтва гаспадаркі замежныя інвестары выдзелілі 1,7 мільёна долараў. На сённяшні дзень скарысталі 1,5. На будоўлі працуюць беларускія арганізацыі. Сярод іх ёсць і маладзечанскія.

Калі работы па будаўніцтве выканаюць, на прадпрыемстве завязуць малькоў стронгі. Рыбу будуць разводзіць у некалькіх басейнах.

200 тон таварнай рыбы ў год – на такую лічбу будуць арыентавацца супрацоўнікі гаспадаркі. Але гэта толькі па першым часе. Калі справы пойдуць добра, лічба хутчэй за ўсё павялічыцца.

Маладзечанскую стронгу будуць прадаваць і ў Беларусі, і за мяжой.

Ала Маскалюк лічыць, што гэта будаўніцтва вельмі патрэбнае гораду і раёну. Асабліва важна тое, што з'явіцца каля 15 новых працоўных месцаў.

Навучаць работнікаў будуць тут жа, на вытворчасці. А разводзіць стронгу не так проста. Тут важны правільны догляд, склад корму, памер басейнаў.

Яшчэ адзін станоўчы момант для раёна – гэта імпартазамяшчэнне. Сёння стронгу да нас прывозяць. А калі пачне працаваць гаспадарка, рыба будзе свая. Гэта больш зручна і танна.

Ды і прыцягненне замежных інвестыцый у раён сведчыць пра добрае эканамічнае развіццё нашага рэгіёна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Калі пайсці на кірмаш жыхарам рэгіёна

**На працягу ўсёй восені ў рэгіёне будуць праходзіць сельскагаспадарчыя кірмашы.**

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы іх праводзяць на цэнтральнай плошчы 17, 24 верасня, 15, 22 і 29 кастрычніка, 5 лістапада. А 8 лістапада ў горадзе адбудзецца рэгіянальны кірмаш. Прадстаўляць сельскагаспадарчыя прадукты з Валожынскага, Вілейскага, Маладзечанскага раёнаў. А з Лагойшчыны прывязуць саджанцы.

Побач з сельскагаспадарчымі прадуктамі свае вырабы прапануюць рамеснікі. Пра гэта расказала **Наталля Драгун**, галоўны спецыяліст аддзела эканомікі Вілейскага райвыканкама.

ВАЛОЖЫН

Па словах **Жанны Марчук**, галоўнага спецыяліста аддзела эканомікі Валожынскага райвыканкама, у Валожыне запланавалі пяць раённых кірмашоў.

Чатыры з іх 25 верасня, 16, 23 і 30 кастрычніка праводзяць на гарадскім рынку. А апошні зладзяць 5 лістапада на гарадской плошчы.

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне першы кірмаш правялі 17 верасня на Старым Месце, расказала галоўны спецыяліст аддзела эканомікі Маладзечанскага райвыканкама **Наталля Раманюк**.

Далей кірмашы будуць кожную суботу да 5 лістапада. Акрамя плошчы, гандлёвыя рады размесцяцца на вуліцах Ларына ля школы №9, Прытыцкага за дамам №3, на Крынічнай ля дома №19 побач з магазінам “Квінта”, на Спаскай ля гаражнага кааператыва №21 і на паркоўцы на перасячэнні вуліц Будаўнікоў і Міру. 1 кастрычніка на Старым Месце зладзяць рэгіянальны кірмаш.

МЯДЗЕЛ

Па словах начальніка аддзела эканомікі Мядзельскага райвыканкама **Святланы Русак**, на Мядзельшчыне традыцыйныя восеньскія кірмашы пачнуцца з 24 верасня.

Пасля будуць 15, 22, 29 кастрычніка і 5 лістапада. Усе кірмашы размесцяцца на вуліцы Заазёрнай.

СМАРГОНЬ

Па інфармацыі сайта Смаргонскага райвыканкама, у Смаргоні кірмашы пройдуць ад 20 верасня да 11 кастрычніка ў розных раёнах горада. 21, 28 верасня і 5 кастрычніка – у мікрараёне Карані ля магазіна “Кацярына”; 22, 29 верасня і 6 кастрычніка – у мікрараёне Усходні ля магазіна “Світанак”; у мікрараёне Заходні ля магазіна “Маяк” – 20, 27 верасня і 11 кастрычніка.

На вуліцы Якуба Коласа кірмашы зладзяць 26 верасня, 3, 8 і 10 кастрычніка.

АШМЯНЫ

Восеньскі кірмаш у Ашмянах запланавалі 24 верасня на вуліцы Першамайскай і плошчы 17 Верасня.

АСТРАВЕЦ

У Астраўцы прадукты сельскай гаспадаркі прапануюць 8 кастрычніка на тэрыторыі гарадской лесапаркавай зоны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ТЭМА НУМАРА

# Раз манета, два манета...

## Як грошай назбіраць за лета

МАЛАДЗЕЧНА

**У чэрвені Юлі споўнілася 10 год. На дзень нараджэння сяброўка Яна падарыла ёй скарбонку.**



Юля і Варвара са сваім “скарбам”.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Праўда, не традыцыйную свінку, а гламурнага мядзведзіка ў ружовым сарафане. Падарунак быў дарэчы. Бо ўжо ў ліпені ў скарбонку ўкінулі першыя манеткі.

Напаўняць мядзведзя дапамагала ўся сям’я. Самы шчодры быў тата. Ён амаль кожны дзень даваў манеты наміналам 1 рубель і 2 рублі. Менш шчодрай – мама.

– За адзін рубель я хлеба для сям’і куплю. А за два яшчэ і малака, – строга казала яна і давала ў скарбонку манеты ў 1, 2, 5, 10 і 20 капеек. Зрэдку 50.

Бабулі і дзядулі таксама дапамагалі напаўняць мядзведзя. Яны не жывуць разам з унучкамі. Таму лепту сваю ўносілі радзей. Але заўсёды шчодра.

### У падліках спатрэбілася табліца множання

Самым любімым заняткам у Юлі і яе малодшай сястры **Варвары** быў працэс закідвання манет у скарбонку. Таму капейкі звычайна дзялілі пароўну на дзвюх і закідвалі па чарзе. Калі адной нейкім чынам траплялася крыху больш, другая крыўдзілася. Часам моцна і са слязьмі.

Бліжэй да восені мядзведзік заўважна пацяжэў. Варвара ўжо не магла ўтрымаць яго ў адной руцэ. А ў сярэдзіне верасня капейкі з цяжкасцю пачалі пралазіць у дзірачку. І вось надышоў жаданы момант, калі трэба было адчыняць скарбонку.

Разбіваць мядзведзя не давялося. Знізу ў ім быў корак, які дзяўчаты дасталі з дапамогай таты.

Усе манеты высыпалі на стол і пачалі... Не, не лічыць. Адразу вырашылі пасартаваць. Спачатку раздзялілі буйныя і дробныя. Да буйных аднеслі 2 рублі, 1 рубель і 50 капеек. Усе астатнія палічылі дробнымі.

Потым асобна расклалі манеты кожнага наміналу: адзінкі з адзінкамі, двойкі з двойкамі і гэтак далей. Манет у 1 капейку назбіралася 21, у 20 капеек – 55, у 50 – 38 штук. Самых буйных, наміналам у 2 рублі, назбіралі 41.

Юля вучыцца ў 5 класе. Таму ўмее памнажаць. Каб пералічыць грошы, намінал кожнай манеты яна памнажала на колькасць. Пасля склала ўсе атрыманыя лічбы. Атрымалася 170 рублёў 86 капеек, або 1 мільён 786 тысяч на недэнамінаваныя грошы.

### За манеты – цукеркі для сяброў

Дзяўчаты адразу заўважылі, што манеты ў 1, 2 і 5 капеек значна горшыя па якасці, чым астатнія. На шматлікіх лічбы праглядаюцца з цяжкасцю.

Таму на сямейным савеце вырашылі ў першую чаргу траціць дробныя манеты. Тым больш была падстава: набліжаўся дзень нараджэння Варвары. З манет 1, 2, 5, 10 і 20 капеек назбіралася 18 рублёў 66 капеек.

Дзяўчаты ўзялі крыху на кішэнныя расходы. А астатнія грошы засыпалі ў цыратовы пакецік і аддалі маме. За іх купілі цукеркі ў дзіцячы садок да дня нараджэння Варвары і свечкі на торт. Засталіся яшчэ грошы на пару пакетаў соку да святочнага стала.

Пакупкі за манеты рабіла мама. І заўсёды ля касы адчувала сябе крыху няёмка. Уявіце: у магазіне чарга 10-12 чалавек. А мама дастае вялікую жменю манет з цыратовага пакеціка і пачынае іх лічыць. А пасля яшчэ прадавачка пералічвае.

Але ў чарзе траплялліся тактоўныя і цярплівыя людзі. А прадавачкі, увогуле, дзякавалі за такую колькасць манет. Аказалася, капейкі патрэбныя ў магазіне. Імі зручна даваць рэшту.

Назбіраць столькі грошай папяровымі купюрамі дзеці і дарослыя наўрад ці змаглі б. Бо калі грошы ляжаць у кашальку ці ў кішэні, заўсёды ўзнікае спакуса іх на нешта патраціць. А манеты ў скарбонцы будуць ляжаць і чакаць свайго часу.

Ведаеце, куды дзяўчаты падзелі буйныя манеты ў 50 капеек, 1 рубель і 2 рублі? Яны раздзялілі іх пароўну і па чарзе закінулі назад у скарбонку.

Пасля таго, як месца ад дробных манет вызвалілася, мядзведзь стаў напалову пусты.

Цяпер Юля з Варварай збіраюць толькі буйныя манеты. І спадзяюцца на тое, што мама стане больш шчодрай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# 350 рублёў манетамі мянялі на валюту

## Як адрэагавалі работнікі банка і людзі ў чарзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Дэнамінацыя падарыла людзям добрую магчымасць – дастаць з далёкіх паліц скарбонкі і пачаць збіраць на нешта карыснае.**

Здаецца, невялікія грошы, аднак маленькімі крокамі можна назбіраць немалую суму. А часам, і нават вельмі значную. Усё залежыць ад памераў вашай скарбонкі.

Калі адны збіраюць на пакупкі, другія пераводзяць грошы ў замежную валюту. 15 верасня ў адзін з банкаў Маладзечна, які знаходзіцца па вуліцы Прытыцкага, прыйшла жанчына з сынам, каб памяняць 350 рублёў манетамі на валюту.

У яе былі грошы наміналам рубель, два і 50 капеек. Усе манеты былі запакаваныя ў тры харчовыя поліэтыленавыя пакеты, у кожным з якіх манеты пэўнага наміналу.

Кожны з пакетаў кліенты перадалі работніку асобна праз латок. Як адзначае загадчык аддзялення банка **Руслан Каржоў**, два пакеты нельга адначасова перадаць, а адзін – калі ласка, праўда ўпрытык.

– Касір адразу вельмі здзівілася, бо такі выпадак за час яе работы быў упершыню, – расказвае Руслан Каржоў. – Аднак не разгубілася і абслужыла кліента аператыўна. На здзіўленне, аперацыя заняла не больш за пяць хвілін, таму незадаволеных у чарзе не было.

Чытач “Рэгіянальнай газеты” **Юры Страх**, які ў гэты час быў у чарзе, адзначыў, што тыя, хто ў гэты час быў у банку, былі вельмі здзіўленыя ўбачаным. Таму наўрад ці пачалі ўзрушацца, што чарга не рухаецца. Усім было цікава, які час спатрэбіцца супрацоўніцы банка, каб палічыць грошы.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.09 | 22.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9563 | **1,9457** |
| Еўра | 2,1961 | **2,1694** |
| Злоты, 10 | 5,0465 | **5,0674** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0180 | **3,0192** |
| Грыўня, 100 | 7,4526 | **7,5405** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 21.09** | | |
| Еўра | 2.1700/2.2000 | **2.1500/2.1830** |
| Долар ЗША | 1.9450/1.9600 | **1.9300/1.9490** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.09 | | 21.09 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей “Фермер”, 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | 0,75 | 5 500 | 0,55 |
| Часнок, 1 кг | 64 900 | 6,49 | 65 000 | 6,50 |
| Капуста, 1 кг | 5 400 | 0,54 | 4 900 | 0,49 |
| Морква, 1 кг | 5 800 | 0,58 | 5 500 | 0,55 |
| Баклажаны, 1 кг | 12 900 | 1,29 | 12 500 | 1,25 |
| Лімоны, 1 кг | 54 000 | 5,40 | 49 900 | 4,99 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 32 500 | 3,25 |
| Мандарыны, 1 кг | 39 900 | 3,99 | 39 900 | 3,99 |
| Гранаты, 1 кг | 59 500 | 5,95 | 49 900 | 4,99 |
| Нектарыны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 30 000 | 3,00 |
| Ківі, 1 кг | 34 900 | 3,49 | 32 000 | 3,20 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Агуркі, 1 кг | 13 500 | 1,35 | 16 500 | 1,65 |
| Перац, 1 кг | 12 900 | 1,29 | 15 000 | 1,50 |
| Кавун, 1 кг | 4 500 | 0,45 | 4 500 | 0,45 |
| Дыня, 1 кг | 12 000 | 1,20 | 12 000 | 1,20 |
| Кабачок, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Вінаград, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19 900 | 1,99 | 23 500 | 2,35 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 3 500 | 0,35 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## У Маладзечне "Рэно-Дасцер" наехаў на жанчыну

МАЛАДЗЕЧНА

Адбылося гэта каля 12 гадзін 14 верасня. 30-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Рэно-Дасцер" заднім ходам па вуліцы Лібава-Роменскай.

Паблізу жылога дома машына наехала на 68-гадовую мясцовую жыхарку. Яна пераходзіла праезную частку дарогі ва неўсталяваным месцы.

Пацярпелай шпіталізацыя не спатрэбілася.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Чатыры чалавекі загінулі на дарогах Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА

Ад пачатку года на аўтадарогах Вілейскага раёна адбылося 17 дарожна-транспартных здарэнняў. У іх чатыры чалавекі загінулі і 17 атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці. У адным ДТЗ вінаваты кіроўца, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

ДАІ звяртаецца да грамадзян і просіць спыняць спробы кіравання транспартнымі сродкамі людзьмі без права кіравання, у нецвярозым стане. Калі не ўдаецца гэта зрабіць сваімі сіламі – тэлефануйце на нумар 102.

**Паводле аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС.**

## У Вілейцы гарэў дом

ВІЛЕЙКА

Ноччу 19 верасня ў Вілейцы гарэў прыватны цагляны дом.

Пажар адбыўся на вуліцы Марата Казея. Пра здарэнне паведаміла суседка.

– Калі мы прыехалі на месца, дах дома гарэў адкрытым полымем, – расказаў інспектар **Аляксандр Казакевіч.** – Дом вялікі, падзелены на дзве палавіны. У кожнай свой гаспадар. Падчас пажару ў адной палавіне людзей не было. У другой гаспадар разам з сужыцніцай былі ў хаце, але змаглі выйсці самастойна.

У час пажару згарэў дах, кухня і часткова прыхожая ў адной палавіне дома. У другой – куродым і сажа. Узгаранняў там не было.

Верагодна, дом загарэўся з-за сапсаванай электраправодкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Снарады часоў Першай сусветнай знайшлі на Смаргоншчыне

СМАРГОНЬ

Больш за 30 снарадаў часоў Першай сусветнай вайны знайшлі пад чыгуначным палатном у Смаргонскім раёне.

Пра небяспечную знаходку стала вядома каля 16 гадзін 13 верасня. Снарады знайшлі паміж чыгуначнымі пуцямі недалёка ад станцыі Залессе. Натрапілі на іх рабочыя, якія пракладвалі каналізацыйныя трубы.

На месца знаходкі выехалі экстранныя службы. Група размініравання абясшкодзіла снарады.

**Паводле tut.by.**

## Прыехалі з розных гарадоў, а сутыкнуліся ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося 18 верасня.

26-гадовая жыхарка Віцебска ехала па Вялікім Гасцінцы на сваім матацыкле "Хонда".

Паблізу дома №145-а наехала на аўтамабіль "Фольксваген-Джэта", якім кіраваў 25-гадовы жыхар Барысава.

Адбылося гэта таму, што дзяўчына за рулём "Хонды" не вытрымала бяспечную дыстанцыю. З траўмамі яна шпіталізавана.

## Заглухла на пуцеправодзе

МАЛАДЗЕЧНА

Яшчэ адна аварыя здарылася ў нядзелю, 18 верасня, у Маладзечне.

У аўтамабіля "Опель-Вектра", якім кіравала 22-гадовая маладзечанка, на пуцеправодзе раптам заглух матор. Пакуль дзяўчына спрабавала разабрацца ў прычыне гэтага, яна адчула ўдар. У машыну ўрэзаўся аўтамабіль "Аўдзі", які па суседняй паласе спрабаваў апярэдзіць аўтобус. І не заўважыў, што на левай паласе стаіць машына. Праз лічаныя хвіліны ў "Аўдзі" ўехаў матацыкліст, які таксама спрабаваў аб'ехаць аўтобус і не заўважыў ДТЗ на суседняй паласе.

**Сяргей БАРТОШ, інспектар Маладзечанскай ДАІ.**



Супрацоўніцы Следчага камітэта Валожынскага РАСК, злева направа: Аксана Гульба, Вольга Іванчык, Дар'я Мікуліч, Іна Бычкевіч. Фота забяспечанае Віталем ЮРЭВІЧАМ.

# Супрацоўніцы Следчага камітэта: **мы хутка выцеснем мужчын**

ВАЛОЖЫН

**Так пажартавала следчая Валожынскага РАСК Юлія Селятыцкая, якая сустрэла мяне на парозе новага будынка Следчага камітэта, у які валожынскія следчыя пераехалі год таму.**

Аднак у кожным жарце толькі доля жарту, тым больш, калі даведваешся, што з 10 следчых – палова якраз прадстаўніцы чароўнага полу.

Ды і сам начальнік Следчага камітэта **Віталь Юрэвіч** прызнаўся, што яму з дзяўчатамі працаваць гэтак жа проста, як і з супрацоўнікамі-мужчынамі:

– А дзяўчаты больш дысцыплінаваныя і больш уважлівыя. Ды і звярнуцца з просьбай да дзяўчыны прасцей. Адзіная наша праблема – гэта тое, што дзяўчаты маладыя. А значыць, у іх то вяселлі, то дэкрэты, то маленькія дзеці. Не, гэта ўсё добра, але з гэтым даводзіцца лічыцца.

А справы ў следчых хапае. Толькі за 2016 год у суд перададзеныя 150 спраў. Гэта значыць, на аднаго следчага прыходзіцца 15.

– Я адно магу сказаць, дай любому майму супрацоўніку справу і ён з ёй справіцца. Узяць хаця б нашага старшага следчага **Сяргея Лапціка.**

Сяргей Лапцік зімой расследаваў махлярства, якое ўчыніла група асоб у асабліва буйным памеры.

Нагадаем, што справа была такой.

Двое расіян прыехалі ў Беларусь, каб набыць цэлую фуру мяса. Яны звярнуліся па дапамогу да свайго знаёмага беларуса. Той паабяцаў дапамагчы, але зрабіў інакш.

Беларус уцягнуў у справу свайго знаёмага дырэктара кампаніі-перавозчыка.

Пакуль расіяне скуплялі ў прадпрымальнікаў мяса і напаўнялі ім рэфрыжэратар, іх беларускі знаёмы разам з уладальнікам рэфрыжэратара распрацоўвалі схему, як адабраць мяса.

У прызначаны дзень перад расіянамі разыгралі сапраўдны спектакль. Увечары на тэлефон кіроўцы рэфрыжэратара паступіў званок ад дырэктара з указаннем рабіць тое, што яму скажуць.

Калі кіроўца фуры праязджаў Валожыншчыну, машыну спыніў чалавек у камуфляжы, што стаяў побач з аўто з праблісковымі маячкамі.

Расіяніну, які быў у кабіне побач з кіроўцам, мужчына заявіў, што дакументы на мяса выклікаюць сумнеў, таму машына з грузам будзе дастаўлена ў Валожынскі РАУС для праверкі. І што, хутчэй за ўсё, мяса канфіскуюць. Расіяніну прапанавалі выйсці з кабіны, а фура ў суправаджэнні машыны з мігалкамі з'ехала.

– Як потым нам прызнаваўся той пацярпелы расіянін, каб яго высадзілі дзе ў горадзе, ён бы і не падумаў звяртацца ў міліцыю, бо дакументаў жа на мяса ён не меў, але той сам не ведаў, дзе ён знаходзіўся.

Калі гаварыць пра статыстыку злачынстваў, то яна такая ж, як і па ўсёй рэспубліцы.

На першым месцы ідуць, вядома, крадзяжы, ці, як правільна называюць іх следчыя, маёмасныя злачынствы. Сёлета ў Валожынскім РАСК знаходзілася 177 заяў на такія злачынствы.

На другім месцы – нявыплачаныя аліменты. Такіх заяў у РАСК – 20.

Трэцяе месца і 13 заяў на ўхіленне ад адбывання пакарання.

Ну і чацвертае месца па колькасці заяў (па сем заяў) дзеляць паміж сабой злачынствы, звязаныя з наркотыкамі, і хуліганства.

Акрамя такіх злачынстваў, якія можна падпарадкаваць статыстыцы, у практыцы бываюць і злачынствы, расследаваннем якіх следчыя могуць ганарыцца.

Сёлета старшы следчы **Аляксандр Шульга** расследаваў службовае злачынства, якое здзейсніла бухгалтар Валожынскага райспажыўтаварыства. Яна з аўтамагазіна скрала 233 мільёны недэнамінаваных рублёў.

Праца ў Следчым камітэце, прызнаецца Віталь Юрэвіч, зладжаная.

– Следчыя дзяжураць суткамі. Супрацоўнікі РАСК, вядома, папярэджаныя, што тэлефон падчас дзяжурства з рук выпускаць нельга.

Ніхто ж не можа даць адказ, колькі разоў за дзяжурства давядзецца выехаць на месца здарэння. Бывае, што выездаў 3-4, а здараецца і такое, што за некалькі дзён следчыя не выязджаюць ні на адно здарэнне.

Акрамя таго, у аддзеле рэгулярна праходзяць залікі па фізічнай падрыхтоўцы, па агнявой падрыхтоўцы.

– Следчыя любяць займацца спортам, – кажа Віталь Юрэвіч, – Некаторыя нават удзельнічаюць у сур'ёзных спаборніцтвах. Але асноўная задача Следчага камітэта – гэта расследаванне злачынстваў. З гэтым супрацоўнікі Валожынскага РАСК спраўляюцца выдатна.

**Ад гэтага года 12 верасня – афіцыйнае прафесійнае свята следчых краіны.**

**Наталля ТУР.**

# Маладзечна 1966 года. Ці пазнаяце гэта месца?

МАЛАДЗЕЧНА

**Месяц таму на сайце "Рэгіянальнай газеты" rh.by мы размясцілі фотаздымкі старога Маладзечна.**


Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.

Ці здагадаюцца цяперашнія маладзечанцы, дзе знаходзілася гэта месца?

Іх у 1966 годзе рабіў фотажурналіст **Міхаіл Асаевіч**, які доўгі час працаваў у газеце "Святло камунізму" (цяпер "Маладзечанская газета"). Некаторыя здымкі ён яшчэ пры жыцці пакінуў для публікацый у "РГ".

На іх можна было пазнаць раён Здземелева, дзе ў тыя гады будаваўся завод. Праўда, подпіс пад фота быў: вёска Здземелева.

Угадвалася на фотаздымку і вуліца Драздовіча. Там таксама былі драўляныя дамы.

Аказваецца, аўтавакзал у Маладзечне таксама пачалі будаваць у 1966 годзе. На фотаздымку Міхаіла Асаевіча бачныя толькі цяперашняя падатковая інспекцыі і пачатак будоўлі аўтавакзала.

Аднак, акрамя іншых фота, мы змясцілі фотаздымак, на адваротным баку якога быў подпіс: "Там, дзе рэстаран".

І прапанавалі нашым чытачам здагадацца, дзе гэта месца. І, па магчымасці, сфатаграфаваць з патрэбнага ракурсу сучасны выгляд гэтага месца.

На просьбу адгукнуліся чацвёра чытачоў.

**Вераніка Раманоўская** выказала здагадку, што, па-першае, гэта можа быць: "удалечыні справа рэстаран "Стары замак", злева – яўрэйскі дом. А па другой версіі чытачкі Веранікі: "Гэта раён рэстарана "Папараць-кветка", які, наколькі я ведаю, быў пабудаваны ў канцы 50-х гадоў".

Чытачка **Таццяна Савіцкая** падумала, што на фота бачная "пажарка" на цяперашняй вуліцы Віленскай, непадалёк ад рэстарана "Еўропа" і дзіцячага садка №17.

Чытач **Яўген Асіповіч** выказаў здагадку, што фота было зроблена з раёна Бухаўшчыны ў бок Партызанскага завулка.

А **Аляксандр Шнуркевіч** не тлумачыў нічога. Проста даслаў фотаздымак.


Фота зроблена Аляксандрам ШНУРКЕВІЧАМ

Здымак, які даслаў Аляксандр Шнуркевіч.

Паважаныя чытачы папяровай версіі "Рэгіянальнай газеты". Магчыма, вы дакладна ведаеце месца, дзе быў зроблены фотаздымак?

А нашых чатырох першых чытачоў, якія адгукнуліся на просьбу знайсці месца ў горадзе, чакаюць прыемныя падарункі ад "Рэгіянальнай газеты". Прыходзьце ў рэдакцыю.

**Наталля ТУР.**



## У маладзечанскага каменя-следавіка можна папрасіць дажджу, удачы і здароўя

МАЛАДЗЕЧНА

**Не так даўно ў Маладзечне каля Палаца культуры адкрылі сквер, які ўпрыгожылі скульптуры з камянёў.**

І вось краязнаўцы заўважылі, што пад пастамент адной са скульптур узялі камень-следавік.

Насупраць цэнтральнай бібліятэкі размясцілася скульптура "Фрагмент" аўтарства **Вадзіма Мацкевіча**. Вадзім Мацкевіч вядомы маладзечанцам сваёй скульптурай "Пасажырка", што сустракае ўсіх на чыгуначным вакзале.

Дык вось калі паглядзець на пастамент да скульптуры, то можна ўбачыць "слядочак".

Такія камяні навукоўцы называюць "следавікі".

З такімі камянямі звязана шмат паданняў, містычных гісторый.

Краязнаўца з Вілейкі **Аляксандр Зайцаў** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што ён здзіўлены, што такі камень знайшоўся ў Маладзечне.

– Справа ў тым, што на Маладзечаншчыне не знойдзена ні адной старажытнай стаянкі людзей. Тут з аднаго боку былі лясы, з другога – балоты, з трэцяга – горы. І ніводнага каменя са слядамі дзейнасці чалавека да гэтага не было.

Лічыцца, што сляды на камені магла пакінуць тая ці іншая звышнатуральная асоба, часцей чорт. Таму такія камяні і называюць чортавымі.

Аднак пазней сталі лічыць, што такі след магла пакінуць божая маці. Самы вядомы такі камень-следавік знаходзіцца ў Жыровічах.

– Самая распаўсюджаная легенда, звязаная са следавікамі, расказвае Аляксандр Зайцаў, – што пры дапамозе гэтага каменя можна выклікаць дождж.

Іншыя паданні гавораць, што таго, хто зрушыць камень-следавік з месца, чакаюць непрыемнасці. Але шматлікія паданні кажуць і пра тое, што ў следавіка можна папрасіць здароўя, удачы ў справах.

Сам скульптар Вадзім Мацкевіч сцвярджае, што не сустракаўся ні з чым містычным, калі працаваў з гэтым каменем.

– Я бачыў, што гэта "ўстаўка" ў форме слядочка з каменя іншай пароды. Але нейкага асаблівага значэння гэтаму не надаваў. Ды і бралі ўсе скульптары камяні для працы з аднаго і таго ж кар'ера пад Маладзечнам. А калі казаць пра містычныя гісторыі, то ў мяне якраз такая здарылася з "Пасажыркай". Правобразам пасажыркі стала дзяўчына майго сябра **Надзея**. І вось калі скульптуру ўсталёўвалі ў горадзе, сапраўдная Надзя раптам збірае чамадан і, не тлумачачы нічога майму сябру, з'язджае на цягніку ў Маскву.

Некаторыя даследчыкі сцвярджалі, што калі фатаграфавалі камень, у іх пераставала працаваць тэхніка. Іншыя мінакі, якіх давялося сустрэць у скверы, прызнаваліся, што тут адчуваюць сябе няёмка, адсюль хочацца хутчэй сысці.

А яшчэ ў маладзечанцаў з'явілася месца, дзе можна загадаць жаданне, папрасіць удачы. Але на ўсякі выпадак, лепш камень з месца не ссоўваць.

**Наталля ТУР.**


Фота Наталлі ТУР.

Скульптар Вадзім Мацкевіч прызнаўся, што магічны камень-следавік узяў у звычайным кар'еры пад Маладзечнам.

# “Яшчэ дзве песні і... галубцы”

МАЛАДЗЕЧНА

**Размовай пра гістарычную каліграфію, пра тое, ці быў Скарына першым друкаром, моўныя курсы “Мова Нанова” распачалі свой другі сезон у аўторак, 20 верасня.**

На першую сустрэчу завітала госця з Мінска **Кацярына Ваданосава**.

Кацярына не толькі спявачка і паэтка. У яе вельмі цікавае захапленне – яна займаецца гістарычнай каліграфіяй і пераплётамі.

Таму тэма заняткаў якраз і была прысвечаная таму, каб высветліць, на чым пісалі нашы продкі, як стваралі кнігі, для чаго чаплялі на кнігі ланцугі.

**Кацярына падчас размовы расказала, што Францішак Скарына быў не першым друкаром на тэрыторыі ВКЛ.**

Да гэтага кнігадрукаваннем займаўся адзін немец. Але ён быў каталіком, а кнігі друкаваў праваслаўныя на стараславянскай мове. За гэта яго хутка выклікалі на інквізіцыю. Немец ад справы адрокся. І Францішак Скарына стаў адзіным сапраўдным першадрукаром.

Пасля расповеду пра сваё захапленне, Каця спявала песні свайго сачынення.

Калі канцэрт набліжаўся да завяршэння, госця “Мовы Нанова” сказала дзіўную рэч:

– Ну што, яшчэ дзве песні і... галубцы.

А потым расказала, што ў нашых продкаў быў такі выраз, калі гаворка ішла пра завяршэнне нечага.

– На пахавальным стале самай распаўсюджанай стравай былі галубцы. Таму, калі гаварылі пра канец нечага, звычайна вымаўлялі: яшчэ крыху і галубцы.

Сезон пачаўся, а, значыць, у наступны аўторак, 27 верасня, наведнікаў чакае новая сустрэча. Тэмамі бліжэйшых заняткаў стануць “Лялькі”, “Аўтагонкі”, “Буцінанка”, “Невідушчыя людзі”.

Таму, каб не прапусціць цікавыя сустрэчы, занатуйце, заняткі праходзяць штоаўторак у бібліятэцы “Верасок” па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121. Пачатак сустрэч у 18 гадзін.

**Наталля ТУР.**

# У Вілейцы адкрылі выставу маладзечанца

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**У выставачнай зале Нікадзіма Сілівановіча пачала працаваць выстава “Нябеснае і зямное” маладзечанскага мастака Сяргея Савіцкага.**

На адкрыццё завіталі жыхары горада, сябры музея. Разам з вілейскім мастаком **Эдуардам Мацюшонкам** прыйшлі навучэнцы яго студыі выяўленчага мастацтва.

Прыгадалі біяграфію мастака. Сяргей Савіцкі нарадзіўся ў Забайкаллі. Потым сям’я пераязджала на Паўночны Каўказ, ва Усходнюю Сібір. Будучы мастак служыў у Манголіі, шмат часу бавіў на берагах Байкала. Вось чаму побач з беларускімі пейзажамі на яго карцінах адлюстраваныя экзатычныя краявіды.

У працах “Дарога ў неба”, “Уваход” – роздум над жыццём пасля смерці. Карціна “Сёмы анёл” нарадзілася пасля прачытання Бібліі.

Сяргей Савіцкі – не прафесійны мастак. Па адукацыі ён інжынер. Аднак, кажа творца, увесь час займаецца самаадукацыяй, знаёміцца з іншымі мастакамі і іх працамі.

– Жывапіс майстра – гэта творчасць уражанняў. Кожны яркі момант яго жыцця фарбамі кладзецца на палатно, – лічыць навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**.

Некаторыя карціны Сяргея Савіцкага суправаджаюцца яго ўласнымі чатырохрадкоўямі.

Выстава будзе працаваць да 30 верасня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

На выставе “літаратурных” страў у Крывым Сяле.

# Кніга, ровар і пальцам пханая кілбаса

## На Вілейшчыне зладзілі велапрабег да Дня бібліятэк

ВІЛЕЙКА

**Бібліятэка і ровар. На першы погляд, рэчы зусім несумяшчальныя. Але ўдзельнікі традыцыйнага бібліятэчнага велапрабегу змаглі звязаць іх разам.**

17-18 верасня ў Вілейскім раёне супрацоўнікі раённай бібліятэкі пры ўдзеле Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі арганізавалі падарожжа “Па бібліятэках – на раварах”.

Такі велапрабег ладзяць у Беларусі ў трэці раз. У мінулыя гады раварысты падарожнічалі па Баранавіцкім і Барысаўскім раёнах. Сёлета месцам для вандроўкі абралі Вілейшчыну.

А пачалося ўсё з велапрабегу “Мінск-Каўнас”. Бібліятэкары Нацыянальнай бібліятэкі паўдзельнічалі ў ім у 2014 годзе і вырашылі зрабіць нешта падобнае ў Беларусі.

У сёлетнім падарожжы – раварысты з Мінска, Фаніпаля, Вілейкі, Смаргоні, Ратамкі, Барысава. Большасць з іх на Вілейшчыне ўпершыню. Кажуць, адразу звярнулі ўвагу на цудоўную прыроду краю.

Аказалася, што далёка не ўсе ўдзельнікі прабегу – бібліятэкары. Іх не было нават паловы. Як прызналася адна з удзельніц, тут проста людзі, якія любяць кнігу і ровар. Удзельнічаць у вандроўцы мог кожны ахвотны.

### Гарбузовая каша для амерыканца

Кожны год у такіх велапрабегах удзельнічае амерыканец **Джон**. Мужчына жыве ў Мінску, мае беларускае грамадзянства. У сталіцы ён працуе праграмістам і займаецца экалогіяй. Таму адразу заўважыў у школе сметніцы для пасобнага збору смецця. І пахваліў педагогаў, якія правільна выхоўваюць дзяцей.

Джон добра ведае рускую і беларускую мовы. Любіць чытаць беларускія газеты. А нарадзіўся ён ў Нью-Ёрку. Яго мама працавала тут бібліятэкарам. Вось адкуль такое цёплае стаўленне да кнігі і да прафесіі.

Сваё падарожжа раварысты пачалі ад бібліятэкі сямейнага чытання ў Вілейцы. Кіраваў групай экскурсавод мясцовага краязнаўчага музея **Віктар Тонкавіч**.

Побач з дарослымі на раварах ехалі падлеткі. Самага маленькага ўдзельніка, улічваючы яго ўзрост, везлі на машыне. Хлопчыку нядаўна споўнілася пяць месяцаў. І большую частку велапрабегу ён праспаў.

А вось чатырохгадовы “аматар” кніжак сумленна хадзіў з бацькамі-раварыстамі на ўсе запланаваныя экскурсіі і выставы.

Першым прыпынкам падарожнікаў стала Крывое Сяло. У сельскім клубе для іх зладзілі майстар-клас. Тут мясцовыя майстры вучылі гасцей рабіць сувеніры з саломкі.

А бібліятэкары Крывога Сяла прапанавалі вандроўнікам выставу “Энцыклапедыя беларускай кухні”. Тут прадставілі стравы з твораў **Ніла Гілевіча**, **Уладзіміра Караткевіча**, **Якуба Коласа**.

Калдуны, верашчака, бабка, каша з бульбы і гарбузы, салёнае сала, самаробны сыр і тварог, пальцам пханая кілбаса, аладкі. Усе “экспанаты” можна было пакаштаваць. І гэта было дарэчы для раварыстаў. За час вандроўкі яны не толькі крыху стаміліся, але і добра прагаладаліся. Тым больш, па словах кіраўніка групы, стравы былі адна смачнейшая за другую.

У Абадоўцах бібліятэкі няма ўжо некалькі год. Аднак вёска зацікавіла раварыстаў старадаўнімі гаспадарчымі будынкамі, паркам, сажалкамі. Некалі ўсё гэта належала абадоўскаму пану **Мечыславу Багдановічу**.

### Чытачка з Мінска – у ільянскай бібліятэцы

У Ілы з ліпеня гэтага года сельская бібліятэка пераехала ў школу. Тут гасцей сустрэлі бібліятэкары **Наталля Шабуня** і **Лідзія Будай**. Падарожнікі з цікавасцю пагарталі кнігі. Асабліва ўразіла іх “Дзікае паляванне караля Стаха” Уладзіміра Караткевіча на чатырох мовах: беларускай, украінскай, англійскай і рускай.

У школьных народных музях “Ільянскія далягляды” і “Вілейшчына літаратурная” мясцовыя школьнікі разам з кіраўнікамі **Валянцінай Ярашонак** і **Людмілай Маркевіч** правялі экскурсіі. Госці даведаліся пра літаратараў, звязаных з Вілейшчынай, пазнаёміліся з гісторыяй Ілы і навакольных вёсак.

Дзякуючы велапрабегу ў ільянскай бібліятэкі з’явіўся новы чытач. Дакладней, чытачка. Юную мінчанку **Лізавету**, якая падарожнічала разам з мамай, вельмі зацікавіла кніга пра чараўнікоў беларускага пісьменніка **Алеся Бадака**. Зацікавіла так, што дзяўчынка з Мінска запісалася на абанемент у ільянскую бібліятэку.

Экскурсіяй, вячэрай і начлегам у дзіцячым цэнтры “Надзея” падарожнікі скончылі першы дзень.

А раніцай 18 верасня іх ужо сустракала Вязынь. Мясцовыя бібліятэкары расказалі пра сваю працу. Работнікі клуба зладзілі канцэрт.

Кола амаль у 100 кіламетраў замкнулася 18 верасня на вілейскай плошчы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в, светла-бежавы. Т. (8-029) 1798400.*
- ВАЗ-2163, 1990 г.в, 1,3 бензін, у добрым стане, цана дагаворная. Т. (8-044) 4654400.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Міцубісі-Спэйс Вэган, 1996 г.в, дызель, у аварыйным стане, тэрмінова, нядорага. Т. (8-029) 9490494.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо 307, 2003 г.в, 2,0 дызель, серабрысты універсал, 8600 руб. Т. (8-029) 1254463.
- Рэно-19, 1994 г.в., 1,7Б. Мядзел. Т. (8-044) 7383788.
- Рэно Велсатыс, 2003 г.в, 2,2Д, колер хамелеон, 7500 руб.Т. (8-029) 7046266.*
- ФВ Т2, грузапасажырскі, 1992 г.в, 1,9Д. Т. МТС (8-029) 2557514.*
- ФВ-Пасат, 1993 г.в, 1,9 ТД, усе опцыі, чорны металік, прабег 215000 км, з 2002г адзін гаспадар. Т. (8-044) 7498937.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,9; 2/5-павярховага цаглянага дома, агульная плошча 21 кв. м. Т. (8-029) 2768629.
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н “Зеніт”, агульная плошча 36,2 кв.м. Т. (8-029) 3313413.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маркава, 30 кв.м, выгоды частковыя. Т. (8-029) 8766082.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цагляным 4-павярховым доме ў цэнтры горада. 2 паверх 39/19/9, лоджыя – 6 кв. м. Санвузел сумешчаны, без рамонту. У доме магазін. Вілейка. Т. (8-029) 2746195.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 2/5. Т. (8-029) 8761540.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т (8-029) 3745706.*
- 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж 6х4 м у Вілейцы ГК “Антэй”. Т. (8-029) 1130550.*
- Гараж у ГБК-4 у Вілейцы, 15 метраў ад чыгуначнай станцыі “Зеніт”. Пліты перакрыцця, драўляная падлога, падвал на увесь гараж, уцепленыя вароты, столь падшытая. Т. (8-029) 7085902.
- Гараж у ГК №24 (ГАЦ “Модуль”) у Маладзечне. Т. (8-029) 3605237, (8-029) 8726641.
- Дача двухузроўневая ў с/т “Завелле” на беразе Віліі, сасновы лес. Дом цагляны, унутраная адздзелка вагонкай. Агароджаная сеткай-рабіцай. Парніка і лазні няма. Нядзёшава. Т. (8-029) 7839557.
- Дачны ўчастак “Медык плюс” у в. Пісараўшчына с/с Мясата, уч. №62, вул. Падгорная. Ёсць невялікі хлеў, сад, кусты, водаправод. Т. (8-0176) 545782.
- Дом 65 кв.м, 15 км ад Маладзечна, 0,47 га (лазня, гараж). Т. (8-029) 6053766, (8-029) 6330293.
- Дом драўляны 74 кв. м на хутары ў в. Свяйцілавічы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобласці, вялікі сад, побач лес, возера. Т. Вэлком (8-029) 1110563, (8-01771) 27032.*
- Дом драўляны з участкам 15 сотак у Мядзеле, зав. Набярэжны. Паравое ацяпленне. 63/47, 200 м ад возера Мястра, 24 тыс. руб. Торг. Т. (8-029) 6111663.
- Дом драўляны ў в. Гародзькі Валожынскага р-на. Участак 21,5 сотак. Падвал 17 кв.м. Агульная плошча 63 кв. м. У двары калодзеж. Т. (8-044) 4586050, (8-044) 4586051.*
- Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*
- Дом жылы драўляны ў добрым стане, 30 сотак, ёсць склеп, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, 8 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 3641985 Вэлком, (8-017) 3931132 (хатні).*
- Дом жылы ў Вілейцы па вул. Стаханаўскай, 249. Т. (8-029) 7656724, (8-01771) 51658, (8-01771) 26453.
- Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*
- Дом у Вілейцы па вул. Камсамольскай. Т. (8-029) 7005039.*
- Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом у Радашкавічах па вул. Савецкай, 85. Ёсць газ, электрычнасць, вада, гаспадарчыя пабудовы. Агульная плошча 70 кв.м. Участак 16 сотак. Т. (8-025) 7743329.*

### ЗДАМ

- Міні-кафэ па вул. Ф. Скарыны ў Маладзечне. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

















**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** -01591, | **Вілейка** -01771, |
| **Ашмяны** -01593, | **Маладзечна** -0176, |
| **Валожын** -01772, | **Мядзел** -01797, |
| | **Смаргонь** -01592. |

## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

НЕПРЫЧАСАНЫЯ МЕМУАРЫ

# Парадніўся ў Вілейцы

**Успаміны кіраўніка групы падрыўнікоў брыгады імя Фрунзе Максіма Міронавіча Фралова, 1912 года нараджэння. Працаваў шафёрам у Вілейцы. Узнагароджаны ордэнам Славы. Пераклад на беларускую мову і загалоўкі рэдакцыі.**



Фота voenvideo.ru

Савецкія ваеннапалонныя ў адным з канцлагераў.

Гэты фрагмент запісу успамінаў, зробленых Сымонам Барысам у 1970-75-х гадах. Раней нідзе не публікаваўся.

Ураджэнец Краснадарскага краю Максім Фралоў расказвае, як патрапіў у палон пад Магілёвам, затым – у Маладзечне.

### Уцёкі з палону ў Маладзечне

"...У Маладзечне немцы набіралі групу рабочых для працы печнікамі. Адабралі 25 чалавек. Я трапіў у гэту групу. Ахова была слабая. Нас прымушалі працаваць. Трэба было самім на двухколцы вазіць гліну. Мы працавалі на Вілейскай вуліцы. Я кажу: "Трэба дубцоў назбіраць, каб гліна лепш трымалася". Гляджу: кавалак хлеба валяецца. Падабраў і з'еў. Каля дома немцы мыюцца. Назбіраў акуркаў і прашу ў іх запалак. Няма у іх.

Немец зайшоў за дом, а я выйшаў на вуліцу, накшталт хачу пакурыць. За мной ніхто не ідзе. Заходжу ў першы двор і ў хату.

**Бабуля пачаставала мяне блінамі і пераапранула ў грамадзянскую вопратку. Дала маленькі кошычак. Стаў я падобны на селяніна.**

Так мне ўдалося выйсці з горада і накіравацца ў бок Вілейкі, каб патрапіць на Полацк. Так падбіў мяне адзін мужчына ў Маладзечне.

Іду і заўважаю, што адна жанчына ідзе ў горад, а другая, як і я – з Маладзечна. Вырашыў удакладніць свой шлях, пераправерыць сказанае мне. Перасякаў жанчынам дарогу, каб пагаварыць з імі. Хоць я і быў у цывільным адзенні і з кошыкам, але дасведчаныя жанчыны адразу зразумелі, што я не мясцовы. Напэўна, па рускай гаворцы вызначылі. Заўважылі, што я і галодны. Яны пакармілі мяне, чым маглі. Адна з жанчын была з вёскі з-пад Іжы. З адной мы пайшлі ў бок Цны. А мяне жывот хапіў, баліць. Трываю. Хоць бы дацямна да Віліі дайсці і пераехаць раку. Мы дайшлі да ракі, жанчына пагукала хлопца. Прыйшоў хлопец і на лодцы перавёз нас праз раку. Падзякавалі яму за перавоз. Жанчына пакінула мяне ў вёсцы Камары. Тут 16 верасня 1941 гады я сустрэў Ліду Субач з Ілішчавічаў.

Нейкі добры гаспадар адвёў мяне начаваць на сена. Але мне было не да сну. Пасля голаду я наеўся бліноў, кіслага малака і бульбы, то ў мяне так моцна разбалеўся жывот і хапіў панос, што я амаль усю ноч і прасядзеў каля плоту. Раніцай мне гаспадар сказаў, каб я сыходзіў. Ён баіцца: "Немцы могуць нас пастраляць, лепш ідзіце".

Я пайшоў і цэлы дзень ішоў да Асіпавічаў. Вечарам прыйшоў на нейкі хутар і стаў прасіцца пераначаваць у краўца. Ён адрамантаваў мой сурдучок, і мяне пакармілі і адправілі далей. Трапіў у вёску Ілішчавічы. Спыніў нейкага хлопца і прашуся пераначаваць. Ён адправіў мяне ў дом №10. Там на лаўцы мужчыны сядзелі. Яны мяне распыталі і завялі ў лазню. Там мы разам памыліся. У лазні ўсе мужыкі на чым свет стаіць лаялі савецкую ўладу. Хлопец мне ціха кажа: "Ты не хвалі дужа савецкую ўладу, інакш цябе здадуць немцам". Прыйшлося памаўчаць. Раніцай мяне тут пакармілі і адправілі на засценак.

### У засценку ў Ілішчавічах

Прыйшоў у засценак і пытаюся гаспадара. Пайшлі яго клікаць. Ён кінуў араць і прыйшоў у двор. Гаспадыня мяне пакарміла. Дочкі кінуліся і ўцяклі. Гаспадар мне здаўся нядрэнным. Ён кажа мне: "Не хвалюйся. Абуладзім".

Увечары ён павёў мяне ў лес. Расцягнулі антэну для дэтэктарнага прыймача. Толькі немцы гергечуць. Разбілі яго. Потым ён дастаў радыёпрыймач з лямпай. Паслухалі. Перадавалі ўжо са Свярдлоўска зводкі Камінтэрна.

**Маўляў, Масква эвакуявалася. Потым кажуць, што Сталін прадаўся ангельцам, але Чырвоная Армія змагаецца. Утварыўся ленінскі ЦК.**

Мой гаспадар Уладзімір Емяльянавіч Субач лічыць, што Ленін – яўрэй і Сталін – таксама. Я слухаю і думаю, што мне з ім небяспечна. Я залежу тут ад кавалка хлеба. Я стаў абараняць Леніна і Сталіна. Гаспадар пайшоў да солтыса заяўляць на мяне, і я за ім іду да яго.

– Ну, што будзем рабіць? – пытаецца солтыс. А я яму ў адказ:

– Хто пікне, нікому не будзе выратавання.

Солтыс прамаўчаў. Відаць, што ён мяне зразумеў. А я потым ад Уладзіміра Субача перайшоў да яго стрыечнага брата Сафронія Субача. У яго ўжо сабраліся два акружэнцы. Такім чынам, з восені 1941 да 1942 года я жыў у засценку ў Ілішчавічах. Мясцовыя жыхары нас пытаюцца:

– Ці ісці нам у паліцыю служыць?

– Канешне, не. Занясіце кумпяк і водкуп.

– Прапануюць моладзі ехаць у Германію. Як тут быць?

– А навошта вам гэта? Не ездзьце туды.

– А ці здаваць немцам пастаўкі і ці плаціць ім падаткі?

– Каму? Ворагу. Не трэба.

Яны нас паслухалі. І некаторыя сяляне падаткі і пастаўкі пераcталі здаваць. Прыехалі карнікі з нямецкай каманды і ўсіх даўжнікоў за нявыплату падаткаў расстралялі.

### Ліда Субач

У Сафронія Субача былі чатыры дачкі і сын. Другі яго старэйшы сын у грамадзянскую вайну пайшоў у Чырвоную Армію і загінуў. За гэта і самога Сафронія палякі пабілі, але жывым пакінулі. Яго дачка Ліда мне падабалася. У мяне з ёй былі агульныя інтарэсы і паразуменне па палітычных пытаннях. Другога акружэнца татарына Грышку пакармілі і адправілі далей, але ён захварэў на жывот і зваліўся. Мы яго падабралі і вылечылі. Потым ён у гэтай вёсцы стаў пастухом.

У 1942 годзе за мной прыйшлі партызаны. Са мной тады сышлі ў лес чатыры акружэнцы. Я быў у групе падрыўнікоў, якую сам і ўзначальваў, у партызанскай брыгадзе імя Фрунзе. Таемна падтрымліваў сувязь з Лідай Субач і яе братам Іосіфам. Яны хадзілі ў разведку ў Вілейку і прыносілі нам звесткі аб праціўніку.

У канцы 1942 года немцы іх вёску спалілі. Сафрон Субач са сваёй сям'ёй жыў у суседняй вёсцы Ручавыя. У пачатку 1943 года я забраў гэту сям'ю ў партызанскую зону".

**Запісаў Сымон БАРЫС.**

**Працяг будзе.**

**Чытайце ў працягу:**

- **Як партызаны разам з паліцэйскімі з Ілы разам бункер нямецкі захапілі.**
- **Як чэху Янэку Павуку куля ледзь галаву не знесла.**
- **Хто рыбгас у Глінным падарваў.**
- **Баі ў Абадоўцах і Альковічах.**

КАЛЯНДАР

## 23 ВЕРАСНЯ

**1910 год.** У вёсцы Юраўшчына Ашмянскага павета нарадзіўся беларускі паэт і настаўнік самадзейны мастак **Юльян Сергіевіч**. Вучыўся ў пачатковай школе, а далей займаўся самаадукацыяй. Пасля службы ў польскай арміі (1932-1933) скончыў сельскагаспадарчыя курсы. З нападам Германіі на Польшчу ў верасні 1939 мабілізаваны ў польскую армію. Трапіў у нямецкі палон. Знаходзіўся ў лагерах для ваеннапалонных (разам з Янкам Брылём), на рабоце ў нямецкага баўэра. Вярнуўшыся на Радзіму пасля вайны, настаўнічаў у вёсках Ленкаўшчына і Манішчыцы Маладзечанскага раёна. Арыштаваны ў 1946. Да 1956-га знаходзіўся ў лагерах Поўначы, Сібіры, Казахстана.

**365 гадоў** таму назад нарадзіўся Ілля Капіевіч (1651 – 1714). Месцам яго нараджэння называецца Мсціслаўшчына, хоць правільней спыніцца на Брэстчыне, ці нават непадалёку ад Ляхавічаў, ці ў саміх Ляхавічах. Вядома, што асветнік вучыўся ў Слуцкай кальвініcцкай школе – перадавой навучальнай установе свайго часу. Праявіў асаблівыя схільнасці да гуманітарных навук. Дасканала авалодаў рускай, нямецкай, лацінскай і іншымі мовамі. Ён стварыў шрыфт, якім мы зараз карыстаемся, некалькі дзесяцігоддзяў пры Пятры I яго называлі "беларускай азбукай", быў настаўнікам у Пятра I, увёў у кнігадрук арабскія лічбы, апублікаваў табліцу трыганаметрычных функцый, у 1700 годзе – басні Эзопа, апублікаваў першую карту зорнага неба.

## 25 ВЕРАСНЯ

**45 гадоў** з часу адкрыцця (1971) мемарыяла "Брэсцкая крэпасць-герой".

**1921 год**. У Празе (Чэхія) пачалася беларуская нацыянальная палітычная нарада (прысутнічала 37 дэлегатаў, доўжылася да 28 верасня).

**1951 год**. У савецкім канцлагеры (Комі АССР, цяпер Рэспубліка Комі) загінуў Вячаслаў Лаўскі, грамадска-культурны дзеяч, педагог, адзін з заснавальнікаў беларускага студэнцкага руху.

**1895 год**. Нарадзілася Ванда Лёсік (дзяв. Лявіцкая; мястэчка Радашкавічы), пісьменніца.

## 26 ВЕРАСНЯ

**1976 год**. Памерла Леаніла Чарняўская (жонка Максіма Гарэцкага), перакладчыца, пісьменніца, настаўніца. Пахаваная на Паўднёвых могілках у Санкт-Пецярбургу.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Адзін дзень у ролі аўтамыйшчыцы: “Дзяўчына, шаруй больш інтэнсіўна”

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі і пачынаць новае жыццё з панядзелка, то чаму б гэта не зрабіць са змены прафесіі?**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

У справе аўтамыйшчыка галоўнае – церці машыну інтэнсіўна, не пакідаць разводаў і змываць усё да бляску.

Так вырашыла я, калі раніцай у панядзелак не паехала ў рэдакцыю, а завярнула па дарозе на аўтамыйку “Космас”, дзе дамовілася дзень адпрацаваць у ролі аўтамыйшчыцы.

У прынцыпе, напярэдадні працоўнага дня мяне не інструктавалі наконт таго, з чаго пачынаць мыццё машын, у якіх прапорцыях разводзіць неабходную “хімію” для іх чысткі.

Адзінае, пра што папярэдзілі, абувацца так, каб не намоклі ногі.

Яшчэ да таго, як адчыніліся вароты мыйкі, пад’ехалі дзве машыны.

Многія гаспадары аддаюць перавагу ранішняму “душу” для свайго аўто, каб на працу паехаць на чыстай машыне.

– А вечарам у нас чарга з маршрутак “Маладзечна-Мінск”, – расказвае гаспадар мыйкі **Аляксандр Казлоў**, – скончаць свой працоўны дзень у 20:30 – і да нас. Каб назаўтра ў Мінск паехаць чыстымі.

Першая наведніца мыйкі, якую абслугоўваю я, прыехала рабіць комплекс. Гэта значыць пачысціць салон і багажнік, а затым вымыць аўто.

З першай маёй машынай мне дапамагае мыйшчык **Сяргей Кананові**ч.

Як толькі машына заязджае на мыйку, Сяргей адразу пачынае даставаць з яе дыванкі, вызваляць ад рэчаў багажнік.

Кручуся пад нагамі, пытаюся:

– А мне што рабіць?

Сяргей уключае пыласос:

– На.

У прынцыпе, у тым, што ты прыбіраеш машыну пыласосам, няма нічога складанага: адзінае, трэба яго засоўваць у самыя недаступныя шчыліны.

Здараецца ў аўтамыйшчыкаў, што, калі чысцяць пыласос, туды трапляюцца і дробныя цацкі, і манеткі, здаралася, траплялiся і ручкі.

Гаспадыня машыны тут жа, побач, чакае, пакуль машыну прывядуць у належны стан.

Хаця на мыйцы ёсць і кліенцкая зона з кававым апаратам, і столік з лаўкамі на вуліцы.

**Ганна**, так завуць гаспадыню аўто, кажа, што раней сама з задавальненнем мыла і чысціла сваю машыну, а цяпер, калі ў яе двое дзяцей і сабака, аддае машыну ў рукі прафесіяналам.

– Ай, ды ну яе. Мне што, шкада тых 15 рублёў? А так тут і пачысцяць, і вымыюць, і не трэба самой пэцкацца.

Калі справа даходзіць да націрання панэлі, чысткі шкла знутры, Сяргей зноў просіць мяне пагуляць.

– Каб машына была чыстая, трэба скарыстацца шасцю рознымі сродкамі, тлумачыць Сяргей, – гэта сродкі для скуры, пластыку, шкла. Плюс тая хімія, якой мыецца машына звонку.

Пакуль Сяргей націрае машыну, накіроўваюся да машыны, якая толькі-толькі заехала на мыйку. Гэта вялікі чырвоны бус. Яе пачынае мыць сам гаспадар мыйкі – Аляксандр.

– А што рабіць мне? – чапляюся я да Аляксандра.

– Стой і глядзі, як раблю я, будзеш мыць другі бок. Машына вялікая, таму “хімію”, каб яна не высахла, мы наносім не адразу на ўсю машыну, а спачатку на адзін бок, потым на другі.

У той час, пакуль назіраю за тым, як працуюць іншыя, даведваюся, што самае папулярнае слова на мыйцы – кёрхер.

Так тут называюць шланг, з якога мыюць машыны. Уласна, прыбор называецца “мыйка машын высокага ціску”, а кёрхер (Karcher) – гэта фірма, якая такія машыны выпускае. Ну, як ксеракс, ведаеце.

Пасля таго, як адзін бок машыны вымыты, да працы прыступаю я.

Па-першае, кёрхер – гэта, праўда, апарат высокага ціску. Калі карыстаешся ім першы час, адразу адчуваецца, як ён так і хоча вырвацца з рук.

– Што гэта за лёгкі душ на адлегласці? – крытыкуе маю працу Аляксандр, – падыдзі бліжэй.

І як толькі я гэта зрабіла, стала зразумела, чаму мыйшчыкі вельмі часта мокрыя з ног да галавы.

Пры блізкай адлегласці пырскі вады ляцяць і на цябе, і ты стаіш увесь у такім вільготным воблаку.

Пасля таго, як першы бруд змыты, машына апрацоўваецца хіміяй, якую тут называюць “пярвічка”. Хаця правільна гэта называецца тамер ад насякомых.

– Гэта робіцца для таго, – тлумачыць Аляксандр, – каб ад машыны “адсталі” розныя “гадасці” – машкара, напрыклад.

Потым на машыну наносіцца шампунь. І машына пераўтвараецца ў “зефірку”. Яна становіцца белай і пухнатай.

Калі легкавы аўтамабіль мыецца бескантактна, шампунь дзейнічае сам і дастаткова толькі змыць пену вадой, то вялікія бусы часта даводзіцца шараваць швабрай.

– Так шаруюць толькі вельмі брудныя машыны.

Бяру ў рукі швабру, пачынаю мыць машыну.

– Ты малая, – кажа Сяргей, – цяжка будзе да верху даставаць.

Нічога не цяжка!

Але зноў крытыкуюць, на гэты раз Аляксандр.

– Дзяўчына, давай больш інтэнсіўна, што ты яе шкадуеш? Толькі бруд размазваеш.

Пачынаю церці больш шчыра. Прызнаюся, адчуваць боль у руках пачала амаль адразу. Але гэта прыемны боль, як ад ранішняй зарадкі. Не ведаю, ці так бы гаварыла, каб памыла запар дзясятак бусаў.

Але гаспадар буса ўсміхаецца, значыць, усё нармальна. Спадзяюся, што перамываць за мной не давядзецца.

**– А ці былі незадаволеныя кліенты? – пытаюся ў гаспадара.**

– Ведаеце, амаль не было. Быў непрыемны выпадак, калі чалавеку нацерлі машыну сіліконам, а мы, не ведаючы пра гэта, яе памылі. І на машыне з’явіліся разводы. Таму мы цяпер папярэджваем, што мыйшчыкі павінны ведаць пра тое, што кліент рабіў са сваёй машынай. Пакінуў каментар кліент у нашых групах у сацыяльных сетках, што аднойчы прыехаў, а мыйка зачыненая. Ну і такое, бывае, здараецца па прычынах, якія ад нас не залежаць. Таму мы і прапануем нашым кліентам запісвацца на мыйку па тэлефоне загадзя, асабліва ў выхадныя дні. Так мы і час эканомім, і настрой не псуём.

Пасля таго, як шампунь змыты, машыну трэба пасушыць.

Але перад гэтым, каб машына даўжэй заставалася чыстай, наносяць воск.

А ў самым канцы машына сушыцца. Робяць гэта “згонам”, або гумовай шчотачкай, пасля выціраюць анучкамі.

І такія працэдуры робяцца на мыйцы з дня ў дзень.

Ёсць тут і пастаянныя кліенты.

– Мне часта гаворацць, – кажа Сяргей, – што цяпер буду мыцца толькі ў вас. Ага, лепш бы “на чайнік” што пакідалі. Але я не ў крыўдзе, хочуць мыць машыну ў мяне, значыць, давяраюць.

А пра што шкадую я, дык пра тое, што на маёй “змене” так ні адна машына не прыехала на паліроўку фараў ці “чарненне гумы”.

Відаць, давядзецца яшчэ раз мяняць прафесію, каб даведацца што гэта такое.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)

# “Зануды, якія раскідваюцца грашыма”

## Ці варта верыць стэрэатыпам аб праграмістах?

**Чалавек у акулярах, які дзень і ноч праводзіць перад камп’ютарам, мяняе мабільны тэлефон кожны месяц і не здольны размаўляць ні пра што іншае, акрамя тэхналогій, – такі вобраз малюе ўяўленне многіх з нас, калі гаворка заходзіць аб праграмістах.**

Што думаюць пра гэты вобраз яны самі? Каб даведацца пра гэта, карэспандэнт “РГ” паразмаўляла з трыма выхадцамі з нашага рэгіёна, якія працуюць у сферы праграмавання.

**Павел Смаленскі, 28 гадоў, Вілейка**

Я з дзяцінства захапляўся камп’ютарамі і пазней ужо слаба бачыў сябе ў нейкай іншай прафесіі. Тады, калі я паступаў ва ўніверсітэт, не было такога ажыятажу вакол ІТ-сферы. Паступіць было нескладана. Вучыцца таксама. Былі прадметы, якія патрабавалі больш высілкаў, – найчасцей тыя, якія не тычыліся праграмавання.

Ды і з працай праблем не было – у нас у сярэднім на трэцім курсе ўсе пачыналі працаваць. Многія засталіся ў Мінску, бо менавіта там працавалі падчас вучобы.

У цяперашній сітуацыі праграмісты могуць жыць камфортна ў любой краіне, не абавязкова для гэтага ехаць у ЗША ці яшчэ некуды. Да таго ж у Беларусі заробак праграміста выйграе ў параўнанні з сярэднім па краіне. У іншых краінах гэта не так відаць.

У Нідэрландах, дзе я цяпер жыву, праграмісты зарабляюць на ўзроўні інжынера і значна саступаюць па заробках дактарам. У Беларусі ж добраму праграмісту дакладна хопіць на пару машын у год. Але, вядома, і заробкі, і машыны ў праграмістаў бываюць абсалютна розныя.

І крытэрыі паспяховай кар’еры ў кожнага свае. Для мяне – гэта калі праца прыносіць задавальненне і амаль як свята, за якое яшчэ і добра плацяць.

Калі гавораць, што праграмісты – замкнутыя людзі, я думаю, што такія абагульненні памылковыя. Мне падаецца, гэты стэрэатып паходзіць з тых часоў, калі мала хто працаваў праграмістам – хутчэй тыя, хто сапраўды быў цалкам захоплены гэтай прафесіяй. Звычайным людзям яны падаваліся нуднымі. Цяпер, калі ў праграмісты бяруць усіх запар, такое меркаванне – міф.

Бліжэйшым часам я плануў застацца ў гэтай прафесіі. Калі стамляюся ад экрана, то выходжу на прыроду, еду куды-небудзь для змены абстаноўкі, кантактую з людзьмі ці чытаю кнігі. Нічога ж не замінае пры жаданні ўзяць гадавы адпачынак і аб’ехаць увесь свет.

**Дар’я Баневіч, 26 гадоў, Смаргонь**

Мэты стаць праграмістам у мяне ніколі не было, неяк так атрымалася. Я паступіла ў БДУІР на інжынера-праграміста-эканаміста. І паколькі пасля абароны мне свяціла размеркаванне, душачкая мая пачала троху хвалявацца.

На чацвертым курсе я пабачыла аб’яву ва ўніверсітэце: вядзецца набор на навучальны курс па аўтаматызаваным тэставанні. Мы з аднагрупніцай вырашылі паспрабаваць. Анкета, сумоўе – і вось я на курсах. Пасля іх мяне ўзялі вучыцца далей. Цягам усяго навучання рэгулярна праводзяцца сумоўі для працаўладкавання. Такім чынам на пачатку пятага курса я ўжо пачала афіцыйна працаваць на рэальным праекце. Пасля мяне туды ж і размеркавалі, усё прайшло гладка.

Як сама праца? Залежыць, вядома, дзе ты працуеш. Заўсёды ёсць, што рабіць, але заданні бываюць тэрміновыя і нетэрміновыя, таму можна зрабіць сабе гнуткі графік.

Спецыфіка такая, што трэба пастаянна вучыцца, бо напрацовак і тэхналогій шмат, іх аб’ём расце з кожным днём. Таму, каб быць вядомым праграмістам, трэба быць рэальна захопленым: каб праграмаванне было аднachасова і працай, і хобі. Такі чалавек рызыкуе быць вузканакіраваным. Але сустракаюцца сярод іх і цікавыя рознабаковыя людзі. Не ведаю, як у іх гэта атрымліваецца.

Зразумела, увесь працоўны дзень сядзіш перад экранам, стасункі з людзьмі збольшага віртуальныя. Пераважна праца камандная, таму ад атмасферы ў калектыве шмат што залежыць. Калі каманда міжнародная, то ёсць магчымасць пакантактаваць з іншаземцамі, нават на непрацоўныя тэмы, з’ездзіць у камандзіроўку ці пазнаёміць іх з Беларуссю.



Фота забяспечана Паўлам СМАЛЕНСКІМ.

Паўла Смаленскага з Вілейкі праца праграміста прывяла ў Нідэрланды.Тут ён працуе ўжо чатыры месяцы.



Фота забяспечана Анатолем САВІЦКІМ.

Праграмісты ўмеюць не толькі добра працаваць, але і добра адпачываць. Анатоль Савіцкі ў Іспаніі на востраве Тэнерыфе.

Праца часам нудная, часам стрэсавая. Таксама хапае бюракратыі, хаця зразумела, што не ў такім аб’ёме, як у дзяржаўных установах. Калі стамляешся, то марыш аб механічнай неінтэлектуальнай працы па чоткім рэжыме. Каб да шасці вечара адтарабаніў і пайшоў дамоў.

Да дзяўчат у гэтай прафесіі нармальнае стаўленне. Праўда, ва ўніверсітэце хапала такіх выкладчыкаў, якія казалі: “Дзяўчына не магла так добра выканаць лабараторную! Табе дапамагалі, таму адзнака ніжэйшая”.

На працы дзяўчат толькі каля 30%. Збольшага тэсціроўшчыцы, але бываюць і распрацоўшчыцы. Мужчыны, вядома, з асаблівым настроем ідуць на сумоўе з дзяўчатамі – “ну-ну, паглядзім, што ты можаш”. Але ў выніку, я думаю, аб’ектыўна ацэньваюць па здольнасцях.

У паўсядзённым жыцці сутыкаешся з сітуацыямі, якія раздражняюць. Напрыклад, калі сяброўка кажа: дапамажы падключыць прынтар, ты ж праграміст! А нічога, што ў ІТ-сферы шмат спецыялізацый?

Ёсць стэрэатып, што калі ты праграміст, то ты раскідваешся грашыма. У цябе апошняя мадэль ноўтбука і тэлефона, ты ў курсе ўсіх апошніх навінак. Сядзіш на працы, папіваеш каву, лазіш па інтэрнэце і нічога не робіш.

Таму я да апошняга не прызнаюся, што я праграміст. Кажу, што працую ў офісе. Калі напрамую пытаюцца, тады ўжо прызнаюся.

Пакуль меркантыльныя пабуджэнні трымаюць мяне ў гэтай прафесіі. Калі сысці на нейкі час, то пасля складана будзе вярнуцца ў форму. А я больш нічога рабіць не ўмею, а перавучвацца не хачу. Таму пакуль застаюся.

**Анатоль Савіцкі, Вілейка**

Я вучыўся ў вілейскай гімназіі №1 “Логас”. Дзесьці з 7-8 класа пайшоў вывучаць мову праграмавання turbo pascal. Было цікава пісаць радкі нейкага кода, якія пасля станавіліся нейкім графічным прадстаўленнем.

У 11-м класе я вывучыў часткова мову php, каб напісаць праект і паехаць на 15-ы рэспубліканскі конкурс навукова-тэхнічнай творчасці вучняў. Мы занялі трэцяе каманднае месца. Я думаў, што паступлю па гэтых выніках. Але давялося здаваць ЦТ. Балы я атрымаў вельмі добрыя: 80 па фізіцы і 89 па матэматыцы. Паступіў на бясплатнае ў БДУІР.

З працай не было складана. Тут як паўсюль: добрых спецыялістаў нідзе не хапае, таму калі ты штосьці ведаеш ці робіш лепей і больш якасна за іншых – працу знойдзеш лёгка. Узрост і працоўны досвед у гэтай сферы не самае важнае. Галоўнае – веды і ўменні. Тэхналогіі мяняюцца вельмі хутка. Можа быць і так, што студэнт ведае ў нейкай сферы болей, чым спецыяліст з пяцігадовым стажам.

Перад тым, як пайсці працаваць, я ў нечым недаацэньваў усе прывабнасці гэтай прафесіі. Напрыклад, тое, што ты хутка бачыш вынікі сваёй працы. Яшчэ раніцай нешта не працавала, а ўжо ў абед запрацавала, можна “памацаць” фінальны вынік сваёй працы. У псіхалагічным плане гэта заўсёды важна.

У пачатку кар’еры вялікую ролю адыгрывае канкурэнцыя. Яна вельмі развівае і стымулюе. Нехта ў выніку становіцца лепей і лягчэй знаходзіць працу, нехта працягвае “прадаваць сябе” без неабходных ведаў.

Увогуле, калі маеш добры, стабільны інтэрнэт, то тваё геаграфічнае месцазнаходжанне не мае значэння. Толькі што розніца ў гадзінных паясах карэктуе час званкоў для працоўных нарадаў. Таму велізарная частка праграмістаў працуе на заказчыкаў з Амерыкі ці ЕС. А частка праграмістаў адмыслова выбірае цёплыя экзатычныя краіны і пераязджае туды са сваёй сям’ёй.

Кожны выбірае месца, дзе яму камфортна. Камусьці патрэбны шумны мегаполіс, камусьці экзатычная прырода, камусьці спакойны горад пад Мінскам, каб там выхоўваць дзяцей.

Усе людзі розныя, таму я супраць таго, каб верыць у стэрэатыпы пра людзей канкрэтнай прафесіі. Я не лічу праграмістаў занудамі. Тут справа ў іншым. Калі вам хтосьці будзе з захапленнем распавядаць пра майстэрства, вы падумаеце: які цікавы, загадкавы чалавек. А калі хтосьці будзе з захапленнем казаць пра новыя тэхналогіі і праграмаванне, то вы хутчэй падумаеце: які зануда! Гэта ж нецікава і нікому не трэба, тэхніка ж проста “магічна” працуе і ўсё.

Кожны павінны займацца тым, што яму падабаецца. Як кажуць: хтосьці працуе і ненавідзіць тую пасаду, якую вы любілі б усё сваё жыццё. Мне ж вельмі падабаецца тое, чым я займаюся. Таму плануў заставацца ў гэтай прафесіі.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

НАВІНЫ

## Гродзенскае дэрбі завяршылася ўнічыю

**АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ**

За 19 тураў у першай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе "Ашмяны" набралі толькі пяць ачкоў, і чатыры з іх – у матчах са "Смаргонню".

Чарговае гродзенскае дэрбі адбылося 17 верасня ў Смаргоні. "Смаргонь" згуляла з "Ашмянамі" 0:0.

– Згулялі ўнічыю за кошт неймавернай самаадданасці футбалістаў, – лічыць прэс-аташэ ФК "Ашмяны" **Аляксандр Навумчык**. – У цэлым гульня праходзіла на сустрэчных курсах, ніхто не хацеў саступаць. Было мноства жорсткіх стыкаў і адпаведна жоўтых картак. У самым канцы матча мог вызначыцца наш нападаючы **Канстанцін Шавялёў**, але здолеў перайграць варатара пасля выхаду адзін на адзін. Хацелася б адзначыць упэўненую гульню навабранца каманды варатара **Аляксандра Шыпа**, які ўпэўнена абараняў свае вароты.

Асобна Аляксандр адзначыў заўзятараў.

– Не ведаю, ці ёсць такое ў сучасным футболе, але бачыў упершыню. Гэта сумесны фанацкі сектар "Смаргоні" і "Ашмянаў" – адны і тыя ж фанаты папераменку падтрымлівалі то адну, то другую каманду. Увогуле, нашы фанаты дружныя са "Смаргонню". І іх заўзятары, калі так можна сказаць, "навучылі" ўсяму, што ведаюць, нашых яшчэ "маладых" фанаў.

"Смаргонь" займае пятае месца. Па-ранейшаму тры ачкі аддзяляе ад трэцяга месца. "Ашмяны" ідуць апошнімі.

## "Вілія" прайграла камандзе з Жодзіна

**ВІЛЕЙКА**

"Вілія" з Вілейкі ў чарговым матчы чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 18 верасня дома прайграла "Жодзіну-2007" 1:2.

Усе галы забілі ў другім тайме. Віляйчане прапусцілі гол на 59-й хвіліне. Потым адыгралiся: гол на рахунку **Андрэя Шабана**. А ў самым канцы матча ў вароты віляйчан забілі гол. Па меркаванні гледачоў – пасля яўнага афсайду, які бакавы суддзя не заўважыў.

Каманда з Вілейкі займае 10-е месца з 12 камандаў.

Чарговы матч намечаны на 25 верасня. "Вілія" чацверты матч запар гуляе дома, супраць "Крупак".

## Каманда Маладзечна перамагла на турніры па міні-футболе ў Слоніме

**МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ**

17 верасня адбыўся 12 турнір па міні-футболе памяці св. Яна Паўла II. Удзельнічалі 16 камандаў з усёй Беларусі, паведамляе catholic.by.

Каманда Мінск-Смаргонь заняла на турніры трэцяе месца.

У фінале гулялі каманды Маладзечна і Грандзічы-Путрышкі. Асноўны час завяршыўся з лікам 1:1. У серыі пенальці мацнейшымі былі маладзечанцы. Яны занялі першае месца.

**Аддзел інфармацыі.**





На закрыцці сезона сабраліся скейтары з Вілейкі, Мінска і Брэста. Фота са старонкі vk.com/skp_vileyka.

# У скейт-парку Вілейкі закрылі сезон спаборніцтвамі

**ВІЛЕЙКА**

**На закрыцці сезона ў скейт-парку Вілейкі 17 верасня спаборнічалі 15 удзельнікаў. Узрост удзельнікаў ад 13 да 25 гадоў.**

Разам з віляйчанамі паказвалі майстэрства скейтары з Мінска і Брэста.

Яны выявілі лепшых у двух дысцыплінах. У Jam session за пэўны час кожны ўдзельнік паказваў усё, на што здольны, па ўсім парку.

Пятае месца заняў **Яўген Русак** з Вілейкі, чацвертае – **Раман Блізнюк** з Мінска, трэцяе – **Максім Ляўданскі** са сталіцы, другое – **Раман Рудэнка** з Брэста. Перамог **Вадзім Раманцоў** з Мінска.

У дысцыпліне best trick удзельнікі паказвалі лепшы трук на цэнтральнай фігуры парку. Месцы з пятага па трэцяе занялі Вадзім Раманцоў, **Раман Іваноў** (Мінск), Раман Блізнюк. Яўген Русак быў другім. А на першым месцы – **Андрэй Сасонка** з Мінска.

– Усё прайшло максімальна добра, у сяброўскай, цёплай атмасферы, – расказаў арганізатар мерапрыемства ураджэнец Вілейкі Яўген Русак. – Адзінае, ужо халаднавата. Думаю, гэта стала галоўнай прычынай таго, што людзей прыйшло крыху менш, чым чакалася. Хоць у любым выпадку народ заўсёды прысутнічаў на пляцоўцы і падтрымліваў удзельнікаў.

**– Якія уражанні былі ў тых удзельнікаў, якія ўпершыню пабачылі скейт-парк?**

– Яны былі прыемна здзіўленыя, бо парк знаходзіцца ў атмасферным месцы сярод дрэў. Усярэдзіне – графіці, выдатнае бетоннае пакрыццё, якасны скейт-парк з правільнымі зонамі для выканання трукаў. Больш за ўсё яны адзначылі парэнчы і піраміду.

Што да планаў на новы сезон, то арганізатары плануюць правесці цікавае адкрыццё і закрыццё сезона. Таксама ў планах хлопцаў-арганізатараў зладзіць на некалькі дзён наметавы скейт-лагер.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чатыры медалі прывезлі вілейскія каратысты з Аўстрыі

**ВІЛЕЙКА**

**Ад 16 да 18 верасня у Штайры (Аўстрыя) праходзіў чэмпіянат Еўропы па каратэ годзю-ру. У ім удзельнічалі пяць віляйчан.**



Фота забяспечанае Наталляй КІРЫЕВІЧ.

Дзмітры Стражнікаў стаў першым на чэмпіянаце Еўропы.

Першае месца ў катэгорыі 12-14 год (да 40 кілаграмаў) заваяваў **Дзмітры Стражнікаў**. Напачатку ён выйграў у сапернікаў з Італіі і Венгрыі. Фінал праходзіў ва ўпартай барацьбе. Толькі на апошніх хвілінах віляйчанін вырваў перамогу 1:0.

Павел Кірыевіч перамог у катэгорыі 18-21 год (да 75 кілаграмаў). Ён па чарзе быў мацнейшы за румына і украінца – прытым, апошняга перамог датэрмінова. У фінале адразу прайграваў прадстаўніку Румыніі 1:4, але ў выніку перамог 7:4. Гэта не адзіная ўзнагарода Паўла. У катэгорыі 21 год і старэйшыя (да 75 кілаграмаў) ён стаў трэцім.

Таксама ў гэтай катэгорыі бронзавы медаль заваяваў **Яўген Канапелька**. У паядынку за бронзу ён перамог іспанца 5:4.

Пра ўсё гэта расказаў трэнер вілейскага клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч.**

**Аддзел інфармацыі.**

Футбалісты, трэнеры і заўзятары "Маладзечна-ДЮСШ-4" прыносяць самыя шчырыя спачуванні галоўнаму трэнеру нашай каманды **Аляксандру Гармазе** з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора – раптоўнай смерці любімай **жонкі Алены**. Аляксандр Пятровіч, вы заўсёды можаце разлічваць на нашу падтрымку.

Калектыў "Рэгіянальнай газеты" выказвае самыя шчырыя спачуванні **Аляксандру Пятровічу Гармазе** з прычыны напаткаўшага вялікага гора – смерці жонкі. Мы смуткуем разам з вамі. Трымайцеся.



калаж "РГ".

# У суботу Маладзечна запрашае на фестываль ART-HOUSE

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У сёлетняй культурнай сталіцы Беларусі 24 верасня адбудзецца V рэгіянальны фестываль творчай моладзі ART-HOUSE.**

Арганізуюць форум Маладзечанскі райвыканкам і маладзечанскі Палац культуры.

У межах фестывалю пройдзе конкурс індывідуальных выканаўцаў і груп па сучасных кірунках моладзевага мастацтва: брэйк-данс, рэп, рок, бітбокс, а таксама чырлідынг па катэгорыях фрыстайл пом каманда і чыр каманда.

У склад журы ўваходзяць вядомыя выканаўцы і прафесіяналы дадзеных накірункаў моладзевага мастацтва: **Дзмітры Зінкевіч**, **Уладзімір Янушкевіч**, **Юры Кізер** (брэйк-данс), **SHANE**, **Аляксандр Залескі**, **BIT TRIP** (бітбокс), хіп-хоп выканаўца **Murovei**, **КамаZ**, гурт "План Эвакуацыі" (рэп), **Вольга Скарбеж** і **Алеся Серак** (чырлідынг).

Пачатак конкурснай праграмы ў 13 гадзін. Удзельнікі будуць размешчаныя на пляцоўках Палаца культуры і ў амфітэатры.

Цудоўным дапаўненнем да фестывалю стане вячэрні гала-канцэрт і дыскатэка з удзелам пераможцаў і гасцей фестывалю: набірае абароты беларускі гурт Navi і хіп-хоп выканаўца Murovei. Гала-канцэрт пачнецца а 19 гадзіне ў канцэртнай зале Палаца культуры.

Дыскатэка з удзелам DJ Nevskiy адбудзецца ў 21 гадзіну ва ўніверсальнай зале Палаца культуры.

**Паводле паведамлення Палаца культуры горада Маладзечна.**

# Адзін піражок, а шмат варыянтаў смаку




Рытм жыцця цяпер настолькі высокі, што вечна нешта не паспяваеш. Для сябе вынайшла лёгкі рэцэпт піражка. Ён, галоўнае, смачны, а часу на прыгатаванне затрачваеш нямнога.

Каб пячы салодкія піражкі, восенню збіраю брусніцы, раскладаю па пакецiках і замарожваю. Тады ў любую пару года ты можаш паласавацца сам і пачаставаць родных ці гасцей.

Для цеста вам спатрэбіцца 3 яйкі, 1 шклянка цукру, 1 шклянка смятаны, 2,5 шклянкі мукі, 1 чайная лыжка соды, пагашанай воцатам. Апошнім часам бяру муку для блінкоў, тады соды не трэба.

Прыгатаванне: яйкі ўзбіваю з цукрам, дадаю смятану, пасля муку і замешваю цеста. Яно, як густая смятана.

**Начынка:** бяру яблыкі, абразаю скурку і наразаю тонкімі скрылікамі. Ягады нават не размарожваю.

Невялікую бляху высцілаю спецыяльнай паперай, змазваю алеем і выліваю палову цеста. На цеста кладу яблыкі, засыпаю брусніцамі. Пасля зноў цеста. Зверху ягады – для ўпрыгожвання.

Духоўку папярэдне награваю да 180 градусаў. Стаўлю піражок на 20 хвілін.

Начынкай могуць служыць не толькі брусніцы, а любыя іншыя ягады – вішні, чорныя, чырвоныя парэчкі. Цяпер якраз ёсць асеннія маліны. Але мне больш даспадобы з брусніцамі.

Смачна атрымоўваецца, калі замест ягадаў вы зробіце начынку з капусты з морквай і цыбуляй. Можна дадаць і грыбы. Але трэба смажыць: спачатку на алеі смажце цыбулю, пасля дадайце моркву, грыбы і ў канцы – капусту.

Трэці варыянт: начынка з цыбулі, морквы і рыбы.

**Ніна САДОЎСКАЯ, Маладзечна.**

Падзяліцеся рэцэптамі фірменнай стравы з чытачамі. Дашліце іх на электронную пошту **regionnews@rh.by**, пажадана з фотаздымкамі.

За свае старанні пераможца зможа пабыць з кампаніяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале "**Глушэц**", якая знаходзіцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.

# Распачынаюць выставу ў памяць Васіля Лазоўскага

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Яна будзе дзейнічаць ад 30 верасня да 20 кастрычніка.**

Адкрыццё выставы жывапісу пачнецца вечарам памяці ў гонар Васіля Лазоўскага. Пачатак у 16 гадзін 30 верасня.

Выстава будзе ў дзіцячай мастацкай школе па вуліцы Язэпа Драздовіча, 5.

Мастак і выкладчык Васіль Лазоўскі пайшоў з жыцця 25 ліпеня 2015 года пасля працяглай хваробы. Яму было 62 гады.

Нарадзіўся ў Татаршчыне Маладзечанскага раёна. Закончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Працаваў на Мядзельшчыне, у дзіцячай мастацкай школе ў Маладзечне.

**Паводле паведамлення дзіцячай мастацкай школы.**


Фота забяспечанае ДМШ.

**Афіша выставы у гонар Васіля Лазоўскага.**



## ГАРАСКОП 23-29 ВЕРАСНЯ

**Авен.** З любой сітуацыі шукайце выйсце самі і пазбягайце ўсяго, што можа нанесці вам шкоду.

**Цялец.** Лёс спрыяе ўсім, хто імкнецца дасягнуць вялікіх здзяйсненняў у сваім жыцці.

**Блізняты.** Вы заваленыя справамі, і ваша імкненне справіцца з усім самастойна можа прывесці да стомленасці і нават стрэсу. Не грэбуйце дапамогай блізкіх.

**Рак.**Цяпер той час, калі фарміруецца новы погляд на свет, а таксама псіхалагічная падрыхтоўка да падзей, якія чакаюць вас у бліжэйшай будучыні. Магчыма, у вашым жыцці з'явіцца чалавек, які раскрые тыя грані вашага характару, якія недаступныя іншым.

**Леў.** Добры час для прыняцця важных фінансавых рашэнняў: усе яны будуць разумнымі, узважанымі і выгаднымі. Вы – практычны чалавек. І менавіта цяпер любыя пакупкі акажуцца найбольш удачнымі.

**Дзева.** У асабістым жыцці магчымы перамены. Гэта добры перыяд для пачатку новых адносін, якія могуць перарасці ў нешта больш сур'ёзнае.

**Шалі.** Вы можаце выключыць са свайго жыцця людзей, якія перашкаджаюць вашаму шчасцю і, насупраць, зблізіцца з тымі, хто ўпрыгожыць сабой ваша акружэнне.

**Скарпіён.** Вы не раз усур'ёз задумаецеся, наколькі добра складваецца ваша жыццё. Галоўнае тут – не нарабіць памылак.

**Стралец.** Перыяд звязаны са спакусай, рознымі выпрабаваннямі душэўнай стойкасці. Але не рабіце ўчынкаў, якія здадуцца вам неадназначнымі з пункту погляду маралі і не дайце ўцягнуць сябе ў сумніўныя праекты.

**Казярог.** Добры час для пошуку жыццёвага ідэала, да якога вы ў далейшым будзеце імкнуцца, расшырэння кругагляду. Магчыма, вы сустрэнеце чалавека, які стане вашым настаўнікам.

**Вадалей.** Ні на хвіліну не сумнявайцеся ў сваёй удачы, і яна прыйдзе да вас. Уявіце сабе, што ўсё тое, што вы хочаце, вельмі моцна імкнецца быць вашым.

**Рыбы**. Не прымайце пад уздзеяннем эмоцый неабдуманых рашэнняў, якія тычацца вашага ўласнага жыцця. Трохі "астыньце", вазьміце паўзу і пастарайцеся адысці ад гэтага – лёс падкажа, дзе знаходзіцца выхад з цяжкай сітуацыі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006
Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

23 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 +12 | | +7 +13 | | +11 +12 | | +8 +13 | |
| | 742 | ↘ 8 | 744 | → 6 | 747 | ↘ 4 | 748 | ↘ 4 |
| Вільня | +7 +13 | | +7 +15 | | +9 +12 | | +5 +13 | |
| | 751 | ↘ 5 | 752 | → 5 | 757 | ↘ 1 | 758 | ↙ 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.03
Захад 19.05
Даўжыня дня 12.02

Усход 0.30
Захад 16.00
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +0,8 °C у 1996 годзе
Максімальная тэмпература + 25,6 °C у 2003 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,5 мм у 2013 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Жыве ў Красным жанчына, якая не так даўно адсвяткавала свой 65-гадовы юбілей. Яна мама 4 дзяцей, 10 унукаў і 3 праўнукаў. Сочыць за фігурай, смачна гатуе, вырошчвае кветкі, спявае ў хоры і дае парады сяброўкам не горш за псіхолага.
Пры гэтым у Любові Васільеўны ёсць мара… трапіць на старонкі "РГ".
Праз тыдзень яе мара здзейсніцца.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | | 5 | 4 | | | 9 | |
| | | 5 | | | | | 1 | |
| | 7 | 2 | | | 1 | | | |
| | | 1 | 6 | | | | | 3 |
| | 4 | 6 | | | | 1 | 7 | |
| 8 | | | | | 4 | 5 | | |
| | | | 8 | | | 9 | 3 | |
| | 1 | | | | | 6 | | |
| | 3 | | | 7 | 6 | | 2 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 6 | 3 | 5 | 4 | 2 | 7 | 9 | 8 |
| 9 | 8 | 5 | 7 | 6 | 3 | 2 | 1 | 4 |
| 4 | 7 | 2 | 9 | 8 | 1 | 3 | 5 | 6 |
| 2 | 5 | 1 | 6 | 9 | 7 | 4 | 8 | 3 |
| 3 | 4 | 6 | 2 | 5 | 8 | 1 | 7 | 9 |
| 8 | 9 | 7 | 1 | 3 | 4 | 5 | 6 | 2 |
| 6 | 2 | 4 | 8 | 1 | 5 | 9 | 3 | 7 |
| 7 | 1 | 8 | 3 | 2 | 9 | 6 | 4 | 5 |
| 5 | 3 | 9 | 4 | 7 | 6 | 8 | 2 | 1 |



● ЗНАРОК НЕ ПРЫДУМАЕШ

## Журналістка шакавала падчас інтэрв'ю бесцырымоннасцю

Узяла неяк мяне калега **Наталля Тур** на інтэрв'ю. Я ехала як фотакарэспандэнт, яна пісаць артыкул. Прыехалі да жанчыны напярэдадні юбілею, каб пагаварыць пра яе гаспадарлівасць, сакрэты сямейнага шчасця, жаночыя хітрасці і іншае.

Пачалі з таго, колькі гасцей завітае на ўрачыстасць, за які час пачалася падрыхтоўка, хто дапамагае. І тут чую, што мая калега пераскоквае на іншую тэму, вырашыла выправіць сітуацыю і дапамагчы.

– **А чым частаваць будзеце?** – запыталася я па-працоўску, калі гаспадыня разлівала каву ў кубачкі.

Такой бесцырымоннасці яна не чакала, таму вельмі здзівілася і замітусілася па кухні:

– Магу манты зварыць, вось сочнікі да кавы.

І тут я зразумела, што не тое сказала пад руку. Яна думала, што прашу мяне з калегай частаваць. Я ж мела на ўвазе, якія стравы для гасцей гатуе. Было няёмка, але калі высветлілі, хто што падумаў, доўга смяяліся. Размова пайшла больш сяброўская.

Хоць і адмаўляліся з Наталляй, але паабедалі па-царску.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Навіна: "Дырэктара абутковай крамы абвясцілі ў вышук". Каментар: "Напэўна, абуў у лапці кагосьці не таго".

***

Прыходзіць студэнт у свой пакой інтэрната, здымае адну красоўку і з усёй сілы кідае аб сцяну. За сцяной крык:

– Казліна, зноў у тры ночы спаць не даеш!

Студэнт ціхенька зняў другую красоўку, лёг спаць. Праз 10 хвілін зноў крык за сцяной:

– Э, я доўга яшчэ чакаць буду, калі другую красоўку кінеш?

***

Калі ты змог падмануць чалавека, гэта зусім не значыць, што ён дурань. Гэта значыць, што табе давяралі больш, чым ты заслугоўваеш.

***

Аб'ява: "Жанчына, 55 год, маці траіх праграмістаў. Прашу каго-небудзь адэкватнага навучыць карыстацца скайпам".

***

Прачнулася раніцай, чакаю, калі мама снядანак прынясе. Пасля ўспомніла, што мама – гэта я.

***

"Не хлебам адзіным сыты чалавек", – сказаў повар заводскай сталоўкі, дадаючы ў катлеты крышачку мяса.

***

Толькі пры родах жанчына можа хоць прыкладна зразумець усе мукі, якія перажывае мужчына пры тэмпературы 37,2.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якую прафесію не варта абіраць жанчыне?



**Алена Крыванос, у дэкрэтным адпачынку:**
– Не трэба выбіраць прафесію, звязаную з цяжкай фізічнай працай. Нам жа дзяцей нараджаць.



**Лізавета Занеўская, вучаніца:**
– Лічу, што выключна мужчынская прафесія – гэта прафесія слесара. Не магу ўявіць жанчыну-слесара.



**Кастусь Цыбульскі, паэт-песеннік:**
– Вельмі нялёгка жанчыне кіраваць аўтобусам, тралейбусам. Але ж хіба можна ёй забараніць што-небудзь, калі так хочацца. Хоча, хай будзе хоць егерам, хоць касманаўтам. Церашкова ж лётала ў космас.



**Анжэла Болдырава, педагог:**
– У няпростай жыццёвай сітуацыі жанчына не выбірае. Ідзе на тую працу, дзе добра плацяць.



**Яўгенія Мянцюк, навучэнка:**
– Вы бачылі калі-небудзь жанчыну-дальнабойшчыцу? Вось і я не бачыла. Не думаю, што жанчына можа кіраваць такой вялікай машынай і цярпець усе няручнасці ў дарозе.



**Раман Кузьмін, работнік культуры:**
– Жанчыне не трэба выбіраць прафесію, якая будзе патрабаваць пастаянных далёкіх камандзіровак. Гэта вельмі нязручна для сям'і.



**Ксенія Сакалоўская, навучэнка:**
– Напэўна, добра адрамантаваць машыну можа толькі мужчына. Таму прафесія аўтамеханіка не для жанчын.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№39 (1117) 23.09.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 920 . Падпісана ў друк у 9.00 22.09.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.